BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Subscription $ 6.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** —Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## ПРЫНЯТАЯ НА СЬВЯТКАВАНЬНІ Ў НЬЮ-ЁРКУ 22 САКАВІКА 1970 ГОДУ 52-ІХ УГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

Беларусы й Амэрыканцы беларускага паходжаньня, што жывуць у Задзіночаных Штатах Амэрыкі, поўнасьцяй усьведамляюць сабе тую важную ролю й вялізарную адказнасьць, што прыпадае на іх у змаганьні за нацыянальныя, сацыяльныя й людзкія правы беларускага народу. Беларусы Амэрыкі, карыстаючыся грамадзянскімі правамі гэтага краю, выкарыстоўваюць усе магчымасьці амэрыканскае дэмакратыі, каб прыцягнуць увагу грамадзтва й дзяржаўных дзейнікаў ЗША да фактаў эканамічнае эксплятацыі Беларусі урадам СССР ды плянавага здушваньня ім беларускае нацыянальнае культуры.

Беларускі народ на бацькаўшчыне, адгароджаны ад вонкавага сьвету калючым дротам савецкае мяжы й прапагандавай заслонай, пазбаўлены магчымасьці быць гаспадаром свае зямлі й свайго жыцьця. На ключавых становішчах у Беларусі стаяць прыслужнікі панявольніцкае Масквы, партыйныя бюракраты, галоўнае заданьне якіх — выпампоўваць эканамічныя багацьці Беларусі ды русыфікацыйнай акцыяй параліжаваць разьвіцьцё беларускае культуры. Каб прыхаваць сваю грабежніцкую палітыку, імпэрыялістычная Масква хавае ад беларускага народу й ад цэлага сьвету асноўныя паказальнікі запраўднага стану беларускае савецкае дзяржаўнасьці, эканомікі й культуры.

Які, прыкладам, працэнт адказных партыйных і адміністрацыйных становішчаў у БССР заняты Расейцамі? Ці сёлетні перапіс жыхарства рэспублікі пакажа гэта?

Які балянс прамысловага й сельскагаспадарскага экспарту й імпарту Беларускае рэспублікі? Ці маскоўскія калянізатары калі-небудзь адказвалі на гэтае пытаньне? Ніколі!

Якая колькасьць кніжак і пэрыядычнага друку пашыраецца ў БССР у беларускай мове, а якая ў мове расейскай? Ці хто калі-небудзь чуў адказ на гэтае пытаньне? Ніколі ніхто.

Колькі школаў у Беларускай ССР зь беларускаю мовай навучаньня, а колькі з расейскай? Чаму Міністэрства асьветы БССР гадамі сарамліва маўчыць пра гэта?..

Не зважаючы аднак на ўсю інтэнсыўнасьць прапаганды, якою партыя прыкрывае панурую рэчаіснасьць у паняволенай Беларусі, факты эканамічнага й культурнага паняволеньня беларускага народу добра ведамыя вонкаваму сьвету. Ведамыя таксама й факты нацыянальнага супраціву ў Беларусі: дамаганьні ад Масквы шырэйшых правоў у адміністраваньні рэспублікі; вымогі беларускага грамадзтва большае ролі для беларускае мовы ў афіцыйных установах БССР; дамаганьні пабольшаньня ліку нацыянальных тэатраў, музэяў, беларускіх выданьняў; бязупынная акцыя адваёўваньня беларускай інтэлігенцыяй ад партыйных фальсыфікатараў духовых і культурных скарбаў свае нацыянальнае мінуўшчыны. Весткі пра ўсё гэта пашыраюцца ў заходнім сьвеце дзякуючы няспыннай дзейнасьці беларускае палітычнае эміграцыі.

Каб спараліжаваць гэты высілак Беларусаў у вольным сьвеце, савецкі рэжым ужо гадамі праводзіць сярод Беларусаў па краёх Захаду сваю падрыўную работу пры дапамозе газэты „Голас Радзімы" ды радыястанцыі „Савецкая Беларусь".

Адначасна, каб абясшкодзіць уплыў на беларускі народ вестак пра нацыянальна-вызвольную дзейнасьць беларускае эміграцыі, Камітэт Дзяржаўнае Бясьпекі БССР узмоцніў апошнім часам акцыю ачарненьня перад народам Беларусі беларускіх нацыянальных арганізацыяў на Захадзе. Сьвежым прыкладам гэтага: кніжка акадэміка Лаўрэна Абэцэдарскага „У сьвятле неабвержных фактаў" ды гэтак званы „раман-памфлет" агента тайнае паліцыі Ільлі Гурскага „Чужы хлеб" у часапісе „Полымя".

Аднак ані фальсыфікатар гісторыі Л. Абэцэдарскі, ані графаман І. Гурскі ня здолеюць зачыніць беларускаму народу вочы на эканамічную эксплятацыю й русыфікацыйны зьдзек у Беларусі. Народ бачыць і разумее гэтае зло. Вось чаму на праведзенай сёлета ў студзені ідэялягічнай канфэрэнцыі ў Менску сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч перасьцерагаў сваіх слухачоў, ідэялягічных ахоўнікаў савецкае турмы народаў, што цяпер „адна з найбольш агульных небясьпек тоіцца ў важыўленьні нацыяналізму".

У сувязі з вышэй адзначаным, мы, удзельнікі сьвяткаваньня ў Нью-Ёрку 52-іх угодкаў абвешчаньня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі, урачыста заяўляем і дакляруем:

Паняволеныя на Бацькаўшчыне, парассыланыя на прасторах расейска-савецкае імпэрыі ды параськіданыя па краёх вольнага сьвету, Беларусы ня зьмірыліся й ня зьміраццa з эксплятататарскім камуністычна-расейскім рэжымам на Беларусі. Усімі сіламі й шляхамі мы будзем працягваць змаганьне супраць паняволеньня беларускага народу за аднаўленьне запраўднае дзяржаўнае сувэрэннасьці й непадзельнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі ды за ўжыцьцёўленьне ў ёй свабодаў, сфармуляваных у гістарычных граматах Рады БНР і ў Дэклярацыі Людзкіх Правоў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў.

НЯХАЙ ЖЫВЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА! ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ У ЗМАГАНЬНІ!

(Ангельскі тэкст гэтае Рэзалюцыі быў надрукаваны ў „Кангрэсавым Рэкордзе" за 28 красавіка 1970).

# САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў БРАДФАРДЗЕ

Урачыстасьць, прысьвечаная 52-ім угодкам абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі Актам 25 сакавіка 1918 году, адбылася сёлета ў Брадфардзе (Ангельшчына) ў нядзелю 5 красавіка ў залі „Лявоніха" Беларускага Грамадзкага Клюбу „Сакавік".

Урачысты Сход адчыніў і прывітаў прысутных сп. Ст. Мак — сакратар Управы мясцовага Аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі. Сп. Ст. Мак папрасіў сп. Янку Калбасу прачытаць рэфэрат на тэму „На шляху да незалежнасьці", які на просьбу Аддзелу ЗБВБ быў адмыслова прысланы д-рам Ст. Станкевічам зь Нью Ёрку. Рэфэрат гэты паясьніў прысутным вельмі цікавы й цярністы шлях змаганьня беларускага народу за вызваленьне ад чорнага й чырвонага расейскага ды польскага імпэрыялізмаў.

Перад рэфэратам сп. Янка Калбаса прачытаў прысланыя сакавіковыя прывітаньні ад Галоўнае Ўправы БАЗА й Беларускага Камітэту ў Мэльбурне (Аўстралія). Афіцыйная частка сьвяткаваньня была закончаная ўшанаваньнем хвілінаю цішыні палеглых змагароў за Беларусь ды беларускім нацыянальным гімнам.

Другая частка сьвяткаваньня была праведзеная ў бары „Крыніца", дзе прысутныя атрымалі вольны ад аплаты „дрынк" у гонар беларускага нацыянальнага сьвята й дзе дружна былі паднятыя чаркі „За Вольную й Незалежную Беларусь".

Пасьля зачыненьня бару, прысутныя перайшлі ўзноў у залю „Лявоніха", дзе ў міжчасе сп-ва Лемяшонкі прыгатавалі сталы із смачнымі закускамі. Старшыня Аддзелу ЗБВБ і сакратар Клюбу „Сакавік" Я. Калбаса, адкаркаваўшы бутэльку шампанскага, падняў тост за Беларусь і прыязнь зь іншымі паняволенымі народамі ды за хутчэйшы паварот у іхныя вольныя й незалежныя краі.

У міжчасе сп. Ст. Мак правёў збор грошай на „Дар БНР", а прысутныя правялі свой час у добрым настроі й гумары.

**Янка Крушына**

# НА ШЛЯХУ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

## І. АБРАБАВАНЫ ІЗ СВАЕ МІНУЎШЧЫНЫ

Акт 25 Сакавіка быў заканамерным вынікам гістарычнага працэсу Беларускага народу. Каб глыбей зразумець гэты працэс, неабходна кінуць вокам на пачаткі беларускага нацыянальнага адраджэньня, што прывяло да Акту 25 Сакавіка.

Ня мы адны, а шмат якія народы Эўропы ў выніку гістарычных абставінаў страцілі былі сваю дзяржаўную незалежнасьць і з гэтае прычыны перажылі ў большай або меншай ступені свой нацыянальны заняпад. Але ніводзін з паняволеных народаў Эўропы не апынуўся ў гэткім цяжкім палажэньні й ніводнага зь іх шлях нацыянальнага адраджэньня ня быў гэткі цярністы, як Беларускага народу.

Нацыянальнае адраджэньне іншых паняволеных народаў чэрпала свае жыцьцёвыя сокі зь дзьвюх магутных крыніцаў: зь іхнае нацыянальнае мінуўшчыны й з народнае фальклёрнае традыцыі сучаснасьці. На колькі быў важны гэны першы — гістарычны кампанэнт нацыянальнага адраджэньня, добра пасьветчыў прыклад Чэхаў, сярод якіх, каб мацаваць нацыянальную сучаснасьць на базе нацыянальнае мінуўшчыны, чэскі адраджэнец Вацлаў Ганка стварыў быў навет літаратурна-гістарычны хвальсыфікат напачатку XIX стг., падаўшы свае арыгінальнае творы — „Каралевадворскі рукапіс" і „Зялёнагорскі рукапіс" за гістарычныя помнікі далёкае мінуўшчыны. Гэткім парадкам, вытокі нацыянальга адраджэньня паняволеных народаў мелі, калі гэтак выразіцца, гістарычна-этнаграфічны характар, тымчасам вытокі нацыянальнага адраджэньня Беларускага народу мелі вылучна этнаграфічны характар.

У сувязі із сваеасаблівымі гістарычнымі абставінамі ў Беларускага народу была перарваная цягласьць нацыянальнага працэсу. Багатая гістарычная мінуўшчына Беларускага народу ў эпоху ўдзельных княстваў і асабліва ў эпоху Вялікага княства Літоўскага для беларускага адраджэньня была страчаная. Слаўная мінуўшчына Вялікага княства Літоўскага, у нацыянальна-культурным разьвіцьці якога Беларускі народ адыгрываў вядучую ролю й выконваў піянерскую культурную місію на Усходзе Эўропы далёка за межамі Вялікага княства Літоўскага, мінуўшчына гэтая разам з нашым нацыянальным назовам была прысвоеная іншаму невялічкаму народу гэнага княства. Тэндэнцыйная расейская й польская навука пасталася затушаваць запраўдны нацыянальны характар нашае мінуўшчыны, а свая беларуская гістарычная навука адно шмат пазьней, і то спачатку вобмацкам, пачала ставіць свае першыя крокі.

Калі ўжо ў пэрыяд нашаніўскага адраджэньня, што дзякуючы спыненьню забароны беларускага друку, пачало ставацца масавым, беларускія адраджэнцы пачалі прыпамінаць народу ягоную славу й веліч у мінулых стагодзьдзях, калі Янка Купала натхнёна заяўляў, што ў мінуўшчыне:

Панам быў дома і слаўным за домам
Мой патаптаны сягоньня народ;
Змог ён ня толькі знаць штукі
з заломам, —
Роднаму слову ўмеў кніжны даць
ход, —

дык і тады яшчэ, калі пісаўся гэты верш, велічная постаць беларускае мінуўшчыны, што „роднаму слову" ўпяршыню дала „кніжны ход" — Францішак Скарына ня сталася яшчэ фактарам нашага нацыянальнага адраджэньня.

На этапе нацыянальнага ўздыму нашага адраджэньня, у часы нашаніўства не магла йшчэ быць выкарыстаная ў якасьці нацыянальнае зброі навет традыцыя эпахіяльнага чыну Кастуся Каліноўскага, што меў месца ў самым, хоць і ранейшым, адраджэнскім пэрыядзе. Да беларускага адраджэнскага працэсу традыцыя дзейнасьці Кастуся Каліноўскага была далучаная ўжо пасьля нашаніўства, аж у 1919 годзе, калі ў віленскім беларускім календары „Сваяк" на 1919 год зьявіўся быў артыкул Вацлава Ластоўскага „Памяці справядлівага", у якім упяршыню падаваліся беларускаму чытачу скупыя яшчэ весткі пра беларускую дзейнасьць Кастуся Каліноўскага ды былі надрукаваныя ягоныя слаўныя „Лісты спад шыбеніцы".

Адарваўшыся ад гістарычнае традыцыі, беларускі народ страціў і сваю старую літаратурную мову, дзяржаўную мову Вялікага княства Літоўскага, будучы змушаным нанава тварыць сваю літаратурную мову не на базе мовы старое, а мовы народнае. Страціўшы свой гістарычны нацыянальны назоў — Ліцьвіны — Беларускі народ неахвотна прысвойваў і накінуты яму назоў Беларусы, у сваёй нацыянальнай нясьведамасьці называючы сябе або паводля сваёй рэлігійнай прыналежнасьці праваслаўная частка народу — рускімі, гэта значыць Расейцамі, а каталіцкая частка — польскімі — Палякамі, або створаным ім-жа чыста этнаграфічным назовам — „простымі" ці „тутэйшымі".

Абрабаваны із свае нацыянальнае мінуўшчыны, Беларускі народ, на зары свайго нацыянальнага адраджэньня, быў у падобнай сытуацыі, што й каляровыя народы Афрыкі напачатку свае палітычнае эманцыпацыі, што адбылася на нашых вачох ужо. Але гэныя каляровыя народы Афрыкі знаходзіліся ў тым лепшым за нас палажэньні, што ніхто ня меў намеру іх асымілёўваць нацыянальна. У мовах клясычных каляніяльных дзяржаваў няма нат слова „англязацыя" ці „французацыя", як адпаведнікаў словам „русыфікацыя", „палянізацыя" ці „германізацыя". На ўзьверх усяго гістарычнага зла, Беларускаму народу пагражала русыфікацыя й палянізацыя, супраць якіх, каб не памерці, як нацыя, мусіў змагацца.

Не зважаючы на гэткі цярністы шлях свайго адраджэньня, Беларускі народ, захаваўшы ў сабе моцныя жыцьцёвыя патэнцыі, у гістарычны мамэнт развалу клясычнае „турмы народаў" — царскае Расеі, змог сягнуць да вяршыняў свайго нацыянальна-вызвольнага працэсу: абвесьціў вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць свае Бацькаўшчыны ды актыўна выявіў даволі намаганьняў утрымаць і ўмацаваць сваю дзяржаўнасьць.

(Наступны артыкул у травенскім нумары). **Ст. Станкевіч**

# НА УГОДКІ 25 САКАВІКА Ў МЭЛЬБУРНЕ

Як і летась 51-ыя сакавіковыя ўгодкі адбеглі сваім зьместам ад ранейшых сьвяткаваньняў, гэтак і сёлета 52-ія ўгодкі яшчэ больш розьніліся ад папярэдніх. І гэта, думаю, добра, бо нешта новае ў праграме й зьмесьце ладжаных сьвяткаваньняў уносіць большае зацікаўленьне й пакідае мацнейшы ўспамін.

Сьвяткаваньне 52-іх угодкаў Акту 25 Сакавіка ў Мэльбурне адбывалася ў двух днёх: у нядзелю 29 сакавіка а. Кулакоўскі ў БАПЦаркве адслужыў за беларускі народ урачысты малебен ды сказаў адпаведную казань, а ў наступную нядзелю, 5 красавіка, была зладжаная Беларускім Камітэтам у ведамай тут на Футскрэй залі ўрачыстая акадэмія.

На праграму акадэміі злажыліся: аўстралійскі гімн, адчыненьне й прачытаньне атрыманых прывітаньняў, рэфэрат на тэму ўгодкаў, сьпевы ў выкананьні мясцовага беларускага хору, перапляганыя шматлікімі дэклямацыямі, і закрыцьцё беларускім нацыянальным гімнам. Пасьля афіцыйнае часткі адбыўся пачастунак кавай.

Хор — мяшаны й жаноцкі (усе харыстыя, як заўсёды, у нацыянальных вопратках) пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча прапяяў: „Падняты родны сьцяг Дзяржавы", „Рабіна, рабіначка", „Сьвеціць месяц із за хмары", „Ой, пайду я, выйду" і два гімны.

Дэклямацыі былі наступныя: М. С. — „Пад звон шыб" (пра Кастуся Каліноўскага) Максіма Танка, А. Груша — „25 Сакавік" Міхася Машары і „Беларусі" М. Рыйкоўскага, Вера Шайпак — „Беларуская песьня" Уладзімера Караткевіча, Юрка Нікан — „Над Беларусьсю" С. Панізьніка ды „Ты прыйдзі" Янкі Купалы, Урсуля Нікан — „Ты прыйдзі" Янкі Купалы ў перакладзе на ангельскую мову Веры Рыч, Ала Корбут — „Праз лугі, разлогі" Эдзі Агняцьвет, Оля Кукель — „Размаўляла сонейка" П. Пранузы, Т. Гірыс — „Буслы" Ларысы Геніюш, М. С. — урыўкі зь вершу „Маёй песьні" Ларысы Геніюш, А. Корбут — „На 60-ыя ўгодкі" А. Дабрыдзеня, М. С. — „Братом на чужыне" Ларысы Геніюш.

Характарызуючы ці ацэньваючы акадэмію, варта адцеміць наступнае: 1. Рэфэрат быў можа за кароткі і не закрануў шырэй фактаў, зьвязаных з Актам 25 Сакавіка, але цікавы сваім мастацкім падыходам ды супрацьстаўленьнем — Сакавіка й БНР да студзеня і БССР; 2. Шматлікія й добра падрыхтаваныя й выкананыя дэклямацыі, асабліва маладых і тых, што сёлета выступалі ўпяршыню, ня толькі ўзбагацілі праграму й прынесьлі задаваленьне слухачом, за што належыцца дэкляматарам падзяка, але сваім прыкладам могуць заахвоціць іншых спрабаваць сваіх дэкляматарскіх сілаў у будучыні; 3. Хор узапраўды цешыў сваім сьпевам ды паказаў відавочны прагрэс у сваёй працы, а затым, дзякуючы яму за дасюлешнюю працу, трэба пажадаць і далейшых посьпехаў; 4. Пачастунак кавай пасьля акадэміі ўнёс крыху сямейнай атмасфэры. Дзякуючы нашым жанчынам і Беларускаму Камітэту за гэты пачын, застаецца прасіць арганізаваць падобныя пачастункі й надалей ды пры ўсякіх нагодах; 5. Атракцыяй у залі акадэміі былі дзьве насьценныя карты Беларусі й першы том „Беларускай Савецкай Энцыклапэдыі", нядаўна атрыманай зь Менску. **М. Н.**

# СЬВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў СЫДНЭІ

Беларусы ў Сыднэі вялікай грамадой сабраліся 30 сакавіка ў Украінскім Народным Доме, каб урачыста адсьвяткаваць 52-ія ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Урачыстую акадэмію адчыніў уступным словам старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі інж. М. Каранеўскі. У сваёй прамове ён перанёс прысутных думкамі ў наш родны край, дзе беларускі народ мучыцца ў маскоўска-бальшавіцкай няволі, ня маючы грамадзкай, нацыянальнай і палітычнай свабоды.

Тады сп. А. Качан прачытаў рэфэрат аб падзеях, зьвязаных з паўстаньнем Акту 25 Сакавіка, аб змаганьні за яго ды аб наступнай расейска-бальшавіцкай акупацыі Беларусі. Месцамі прысутныя былі блізкія плачу, калі дакладчык прыгадваў тысячныя ахвяры беларускага народу ў гадох крывавага сталінскага тэрору.

Сп. А. Качан таксама шырака закрануў і нашыя праблемы на эміграцыі, як пытаньне арганізацыі й будовы нашых народных дамоў, таварыстваў, прэсы, а перадусім справу куплі дому пад Беларускі Музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Прысутныя, выслухаўшы заклік пра матарыяльную дапамогу дзеля куплі дому, адобрылі пачын Беларуска-Ангельскага Таварыства ў Лёндане й прыабяцалі ў меру магчымасьцяў прыйсьці з дапамогай.

Пасьля гэтага д-р Язэп Малецкі зрабіў агляд жыцьця й палажэньня беларускіх сялянаў і работнікаў на бацькаўшчыне, падчыркваючы асабліва бязвыхаднае палажэньне калгасьнікаў, што працуюць звыш сілаў пры нявымоўна нізкай аплаце. Ня лепшае палажэньне й беларускіх работнікаў, што асабліва калярытна было праілюстравана д-рам Я. Малецкім канкрэтнымі фактамі.

На заканчэньне адбылася бяседа, перапляганая тостамі, песьнямі й народнымі прыпеўкамі сп. А. Ліпскага. З боку ўкраінскага грамадзтва мілымі гасьцьмі былі сп-ва М. Сьвідэрскія. Умелы падбор патраваў ды іхны нязвычайны смак прысутныя заўдзячвалі сп-ням Лужынскай, Олрайт, Каранеўскай і Хаванскай.

**Я. Лаўрыновіч**

# УГОДКІ АКТУ 25 САКАВІКА Ў ТАРОНТА

Вялікі гэты юбілей і сёлета ўсе Беларусы ў Таронта адзначылі супольна.

Каардынацыйны Камітэт з прадстаўнікоў Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня ў Канадзе й Згуртаваньня Беларусаў Канады палажыў шмат працы на падрыхтаваньне сьвяткаваньня, і гэта дало належныя вынікі. Сьвяткаваньне прайшло з асабліва высокім ідэйным уздымам і на высокім узроўні.

Першым вялікім дасягненьнем было, што ў выніку стараньняў Каардынацыйнага Камітэту мэр гораду Таронта Вільям Дэнісан абвесьціў дзень 25-га сакавіка „Беларускім Днём Незалежнасьці". Ужо 24 сакавіка найбольшая таронтаўская газэта "Daily Star" паведаміла пра гэта ў зацемцы пад загалоўкам „Заўтра Дзень Беларускае Незалежнасьці". У іншым таронтаўскім штодзённіку "The Globe and Mail", таксама за 24 сакавіка, быў пададзены зьмест праклямацыі пад вялікім загалоўкам: „Горад Таронта. Да ведама грамадзтва. Дзень Беларускае Незалежнасьці" (з подпісам мэра Таронта) ды другая шырэйшая й больш інфармацыйная зацемка, падпісаная К. Акулам ад ЗБК.

25-га-ж сакавіка 1970 г. ад усходу да захаду сонца перад манумэнтальнай ратушай гораду Таронта красаваўся ўзьняты бел-чырвона-белы сьцяг. Праз увесь дзень, як да сьвятыні, наведваліся сюды грамадкі Беларусаў, а пад вечар пасьля працы сабраліся большай грамадой, каб у ціхай але шчырай маніфэстацыі аддаць пашану юбілейным падзеям.

Самое сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 5 красавіка. Зраньня адбыліся малебны за Беларусь і Беларускі народ у царквах сьв. Еўфрасіньні Полацкай і сьв. Кірылы Тураўскага, а папаўдні — урачыстае пасяджаньне з прынагоднай канцэртнай часткай.

Сонечная цёплая пагода спрыяла Беларусам сабрацца ў вялікай колькасьці ня толькі з Таронта ды ваколіцаў, а й далейшых месцаў правінцыі Антарыё.

Старшынём урачыстасьці быў сп. Язэп Пітушка, малодшы. Гэта быў ягоны першы ўдзел у нацыянальным жыцьці, як дарослага, і трэба сказаць, што ўскладаньня на яго спадзяваньні ён апраўдаў поўнасьцяй. Віншуем яго з посьпехам ды жадаем, каб гэты першы пачын быў яму баявым хростам для адданай працы на карысьць Беларусі на даўгія гады, а іншым нашым маладым — добрым прыкладам.

Канадыйскі гімн "O, Canada" на піяніне адыграў сп. Павал Пашкевіч, і пасьля кароткага адчыненьня старшыня ўрачыстасьці перадаў слова для дакладу пабеларуску др. Янку Запрудніку зь Нью-Ёрку.

Дакладчык у моцных паэтыцкіх словах гаварыў, што народ наш на Бацькаўшчыне побач няволі палітычнай церпіць і другую, яшчэ цяжэйшую, няволю духовую. Каб забіць у народзе веру й пашану да самога сябе ды ўсяго свайго, „усё белае перахварбоўваецца там на чорны колер, а ўсё чорнае на чырвоны". Для прыкладу, як сучасныя маскоўска - бальшавіцкія гісторыкі хвальшуюць і нашую гісторыю, прамоўца зачытаў колькі дакумэнтаў з бальшавіцкіх-жа крыніцаў: вытрымкі з газэты „Известия" з 1918 г., у якіх гаворыцца аб тым, як Немцы на акупаваным імі ў 1918 г. беларускім абшары не прызнавалі незалежнасьці новапаўсталае Беларускае дзяржавы ды, поўнасьцяй ігнаруючы ўрад БНР і беларускія інтарэсы, найменшы супраціў ламалі сілай. Тут-жа дакладчык падаў таксама вытрымкі з сучасных савецкіх гісторыкаў, якія кляймуюць БНР за пранямецкую палітыку й калябаранцтва зь Немцамі.

Пасьля дакладу, песьню „25 Сакавік" на словы М. Кавыля зь вялікім чуцьцём прапяяў сам ейны кампазытар сп. Ю. Мазура з Дэтройту.

Далей, другі даклад паангельску прачытаў др. Янка Садоўскі, выкладчык на ўнівэрсытэце ў Кінгстане, правінцыі Антарыё. Дакладчык даў агульны, але яркі нарыс гісторыі беларускае мовы й літаратуры ад ейных найстарэйшых слаўных пачаткаў, праз занапад і першага адраджэнца Фр. Багушэвіча, аж да сяньняшніх дзён.

Ізноў прагучэлі дзьве настраёвыя песьні: „Слуцкія ткачыхі" (словы М. Багдановіча, муз. Туранкова) і „Песьня мая, песьня" (сл. Случчаніна, муз. М. Куліковіча) ў беспрэтэнсійным, але кранаючым душу выкананьні дэтройцкага ансамблю „Васілёк" пад кіраўніцтвам сп-ні Т. Гічко ды пад акампаніямэнт Лены Пляскач.

Былі перaказаныя прывітаньні вусныя й пісьмовыя прадстаўнікоў канадзкіх уладаў, іншых этнічных групаў ды ад іншых арганізацыяў і асяродкаў нашых суродзічаў у вольным сьвеце.

У вагульны настрой урачыстай павагі прыкрым дысанансам уварвалася выступленьне прадстаўніка „Эдмунд Буркэ Сасаеты", крайне правае групоўкі. Прамоўца, ня прывітаўшы нат зь юбілеем, даўгімі самарэклямнымі тырадамі ды бестактоўнымі заўвагамі ў адрыс канадыйскіх урадавых прадстаўнікоў, якія прыслалі ўдзельнікам сьвяткаваньня свае прывітальныя тэлеграмы, выказаў сваю непашану да прысутных ды выклікаў пачуцьцё нясмаку. Вельмі шкада, што прадстаўнікі ЗБК наўсуперак катэгарычнаму становішчу БНА не запрашаць гэтай групы зусім, запрасілі й дамагаліся выступленьня буркаўца на супольным сьвяце.

На шчасьце прышоў перапынак, а пасьля яго канцэртная частка, і ў прысутных зацерлася благое ўражаньне.

Выступала солё ведамая ўжо таронтаўскім слухачом зь мінулых год сьпявачка Вера Артон зь дзьвюмя песьнямі „Я іду дарогай" (муз. М. Куліковіча, акампаніямэнт сп-ні Т. Гічко) і „Белавежа" (сл. Л. Геніюш, муз. Ю. Мазуры) ды, як заўсёды, сустрэла гарачыя воплескі. Яна-ж пяяла і ў ансамблі „Васілёк" разам із сп-няй Б. Сажыц ды сп-няй Т. Пляскач і ейнай дачкой Марысяй. Ансамбль выканаў яшчэ дзьве песьні „Я ад вас далёка" і „Роднае слова", абедзьве на словы Я. Купалы і муз. М. Куліковіча.

Зь пасьняй калярытна перапляталіся народныя танцы: „Крыжачок" і „Лявоніха" ў выкананьні моладзі пад кіраўніцтвам сп-ні В. Пашкевіч пад музыку на акардыёне сп. В. Родзіна ды полька „Янка" ў выкананьні 4-ох пар малых дзяўчатак пад кіраўніцтвам Эвы Пашкевіч. Заля грымела воплескамі, пабачыўшы ўжо першыя завіхастыя крокі малых танцорак, і на ўсіх тварыках артыстачак адразу-ж зацьвілі шчасьлівыя ўсьмешкі, якіх так цяжка было дабіцца на пробах. Недарма калісь наш ведамы сьпявак Міхась Забэйда-Суміцкі казаў: „Воплескі артысту, што добраму каню авёс".

Пасьля Лена Пляскач віртуозна выканала на піяніне „Новэлет" Шумана оп. 21, № I; дэтройцкі мяшаны невялікі хор прапяяў песьню „Паўстань народ" (сл. Я. Купалы, муз. М. Куліковіча) і на заканчэньне супольна з заляй — наш нацыянальны гімн.

Шчырая падзяка паважаным дакладчыкам ды дарагім артыстым і суродзічам з Дэтройту й Кліўленду, якія, не зважаючы на вялікую адлегласьць, што іх аддзяляе ад Таронта, сваім укладам дадалі павагі й патрыятычнага ўздыму да нашага супольнага нацыянальнага сьвята.

Шчырая падзяка др-у Я. Скурату, які шматлікімі здымкамі ўвекавечыў нашую імпрэзу, ды ўсім маладым і маленькім артыстым з Таронта.

Шчырая падзяка й прызнаньне арганізатарам сьвяткаваньня, Каардынацыйнаму Камітэту, што так рупна аб усім падумалі й зарганізавалі, асабліва-ж сакратару др. Р. Жук-Грышкевіч, якой і на гэты раз давялося вельмі шмат папрацаваць.

**В. Пашкевіч**

**CITY OF TORONTO — PUBLIC NOTICE**
**"BELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY"**
**WEDNESDAY, MARCH 25th, 1970.**

The City of Toronto has been approached by the Belorussian-Canadian Coordinating Committee to proclaim Wednesday, March 25th as "Belorussian Independence Day".

This year marks the Fifty-second Anniversary of the independence of the Belorussian Democratic Republic, which was shortlived as that government was overthrown, and forced into exile. Belorussian people, who have become useful and worthy citizens of Canada, continue to strive, hope and pray that justice and freedom will be restored in their native land.

The City of Toronto is therefore pleased to proclaim Wednesday, March 25th, 1970, as "Belorussian Independence Day" in recognition of ceremonies to be held that day and to bring attention to the Belorussian fight for freedom.

Mayor's Office, **Mayor.**

# БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ СЬЦЯГ ПЕРАД РАТУШАЙ У ТАРОНТА



„Я, Божа, чуць хоць раз хацела-б
шум сьцягу вольнага свайго!"
(Л. Геніюш)

25 сакавіка 1970 году, 52 гады пасьля таго, як у Менску абвешчаная была Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, на пляцы ймя Натана Філіпса ля „Сіты Гол", будынку гарадзкое ўправы Таронта, на ўсходзе сонца быў падняты, першы раз у гісторыі гораду, беларускі нацыянальны сьцяг.

Вольным ён яшчэ ня быў. Але ўва ўсёй сваёй бел-чырвона-белай прыгажосьці, распусьціўшы „свае крыльлі, як сьведка вечнага жыцьця", узьвіваўся над мільённым горадам Таронта. На фоне сіняга неба вольнае Канады ён сьветчыў сьвету, што „ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны", раз верацъ, што прыдзе дзень, калі беларускі народ на Бацькаўшчыне пачуе **„шум сьцягу вольнага свайго"!**

Заходнім вятром перадаваў ён нашу ціхую малітву ў далёкую й блізкую сэрцу Беларусь. А малітву гэтую неба відавочна чула, бо на 25 Сакавіка спыніла сьнегавіцу, даравала сонечны дзень і толькі, калі позьнім вечарам пасьля захаду сонца сьцяг быў апушчаны, назаўтра ўзьнялася йзноў сьнегавая бура з дажджом.

25-га была серада, працоўны дзень. Таму Беларусы Таронта й ваколіц сабраліся ля Ратушы аддаць пашану свайму сьцягу пасьля працы, між 5-ай і 6-ай папаўдні. Ды на працягу ўсяго дня нашы людзі прыходзілі рабіць здымкі, ды паглядзець на свой сьцяг.

У антарыйскім выданьні штадзённае газэты ў ангельскай мове „Глёб энд Мэйл", у № 37, 531 за 25 сакавіка 1970 г., на другой бачыне была надрукаваная праклямацыя мэра Таронта Вільяма Дэнісана, якая абвяшчала 25 сакавіка, 1970 як **„БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ"** (тэкст праклямацыі падаём у іншым месцы нашае газэты). Гэты-ж нумар „Глёб энд Мэйл" зьмясьціў і зацемку „Беларусь", падпісаную — „К. Акула, рэфэрэнт вонкавых дачыненьняў Згуртаваньня Беларусаў Канады". Аўтар паясьняе, чаму беларускі нацыянальны сьцяг узьняты сяньня ля „Сіты Гол" Таронта й ад Беларусаў Канады дзякуе Радзе Таронта за дадзены на гэта дазвол. 24 сакавіка газэта „Торонто Дэйлі Стар" надрукавала зацемку: „Заўтра Беларускі Дзень Незалежнасьці".

Праклямацыя, узьняцьце бел-чырвона-белага сьцягу ля ратушы Таронта й частка публікацыяў у канадзкай прэсе была дасягнута стараньнем Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады.

**Р. Жук-Грышкевіч**

# „ТАЯМНІЦА" ВОЗЕРА СТАЯЧАГА

Кандыдат гістарычных навук В. Рабцэвіч, паводля артыкулу Л. Лявонава „Голас мінулых вякоў", зьмешчанага ў „Літаратуры і Мастацтве" ад 24 сёлетняга лютага, у крыху прыўзьнятым тоне зазначыў: „Бадай нідзе няма столькі скарбаў, як на Беларусі. Мы проста ходзім па іх. Навукоўцам ужо вядома больш тысячы беларускіх скарбаў. Беларусь знаходзіцца на вялікай дарозе. Каго тут толькі ня было! Тут губілі галавы і грошы Татары і тэўтонскія рыцары, Швэды і Французы . . ."

Малады навуковец часткова мае рацыю. Не дарма наш народ у сваім багатым фальклёры стварыў кветку папараці, што на Купальле адкрывае зачараваныя скарбы. Ня выпадкова вядомы „Статут Вялікага Княства Літоўскага" 1588 году забясьпечвае правы тых, хто знаходзіў скарб. На Беларусі знойдзены старадаўнія манэты фэнікійскія й афінскія, эгіпскія й македонскія, рымскія й індыйскія ды іншыя, а таксама пазьнейшыя—ангельскія, швэдзкія, нямецкія і гэтак далей, і нарэшце ў скарбах тых траплялася найбольш каштоўная за даўнія часы міжнародная валюта — арабскія залатыя дынары й сярэбраныя дыргэмы, а паміж імі прыналежныя казачнаму каліфу Гарун аль Рашыду, нібы даводзячы, што ён існаваў ня толькі ў „Тысяча й аднэй ночы", а запраўды. Але-ж грошы гэтыя данесьлі сюды ня гэтулькі салдаты, як здаецца В. Рабцэвічу, колькі купцы, бо праз Беларусь пралягалі ня толькі вайсковыя, але й гандлёвыя шляхі.

Аднак пераважная бальшыня гэтых скарбаў знойдзеная ня ў часе адмысловых пошукаў археалёгамі сьлядоў далёкага мінулага, а зусім выпадкова, калі іх, схаваных некалі ў гліняных гаршкох або ў берасьцяных лубянках, выварочвала спад зямлі навонкі карэньне паваленага навальніцай дрэва, ці агаляла рака, падмыўшы ў часе паводкі бераг, а часам натыкаўся на іх чалавек, капаючы студні й магілы, канавы й акопы або навет у некаторых выпадках іх выворвала саха. Але калі пошукам таго ці іншага скарбу пачынае, пасьля сэнсацыйных паведамленьняў у друку, надавацца плянавы характар, прычым адсутнічае ўсялякая навуковая падстава для гэткіх пошукаў у вабраным ці проста прызначаным ім месцы, дык часта-густа яны, апрача страты значных сяродкаў, канчаюцца прыкрым канфузам.

На Меншчыне, у двух кілямэтрах ад мястэчка Крупкі, у прыгожым сасновым бары, паблізу ад старога шляху й цяперашняе аўтастрады з Масквы да Менску, знаходзіцца возера Стаячае, што мае плошчу ў 3 гэктары, глыбіню да 14 мэтраў, а ягонае дно пакрыта сапрапелямі, якія дасягаюць грубіні ў 9 мэтраў. Больш за 3 тысячы вазёраў налічвае нашае Паазер'е і таму ня дзіва, што апрача тутэйшых шмат хто пра возера Стаячае ніколі й ня чуў, але летась, з прычыны вялікае папярэдняе рэклямы, яно сталася вядомым ня толькі ў БССР, а па ўсім Савецкім Саюзе. Паводля запэўніваньняў і цэтральнага й пэрыфэрыйнага друку, на дне гэтага возера ляжаць нязьлічоныя каштоўнасьці, а менавіта ўласьне ў ім у часе вайны 1812 году, Французы, адступаючы спад Масквы, патапілі ўсё нарабаванае імі ў Расеі. Без адкладу тут распачаліся пошукі бяз увагі на дадзеныя гісторыі й геаграфіі, якія зусім ня сьветчаць на іхнюю карысьць.

Паміж гістарычных дакумантаў, апублікаваных 12 травеня 1968 году ў „Недели" — штотыднёвым дадатку да „Известий" — зьмешчана цікавае паведамленьне ад 6 верасьня 1812 году вікарага Маскоўскай Мітраполіі япіскапа Дзьмітраўскага Аўгустына Сыноду, дзе ён піша, што па загаду граданачальніка Масквы графа Растопчына ўсе каштоўнасьці Крамля, а таксама манастыроў і большасьці цэркваў Масквы вывезеныя ў горад Валогду. Значыцца, яны ніякім чынам не маглі трапіць у рукі Французаў. Калі-ж сёе-тое з пакінутых сям-там рэштак яны й захапілі, дык згодна із сьветчаньнем пісьменьніка А. Болатава ў ягоных „Запісках" тыя 190 падводаў з каштоўнасьцямі, якія яны вывезьлі з Масквы, яшчэ да Смаленску перахапілі казакі атамана Платава. Паказальна, што ўласьне з адабранага серабра адлітаваныя й вялізнае панікадзіла ў Усьпенскім саборы Крамля й манумэнтальныя царскія дзьверы іканастасу Казанскага сабору ў Пецярбурзе.

Тым ня менш ведамы ангельскі пісьменьнік Вальтэр Скот на падставе невядомых крыніцаў, а можа й творчага домыслу, у сваёй кніжцы „Жыцьцё Напалеона Банапарта, імпэратара Французаў", прыгадаў, што ўсю маскоўскую пажыву Напалеон загадаў кінуць у Сямлёўскае возера. У 1832 годзе кніжка гэтая была перакладзеная на расейскую мову і адразу-ж, наўсуперак гістарычным фактам, сталася моцным штуршком для пошукаў каштоўнасьцяў, нібы захопленых Французамі. Дарэчы, сам народ у сваіх паданьнях глуха пацьвярджаў, што быццам нешта Французы ў гэтае возера кідалі. Чутка аб гэтым дайшла навет да цара, і ў 1835 годзе Мікалай Першы загадаў інжынер-палкоўніку Чацьвяртакову самым дбайным чынам дасьледваць возера. Захаваліся чатыры рапарты апошняга аб тым, што нічога, апрача звычайных камянёў, ім ня знойдзена. Ужо больш пашанцавала тутэйшай абшарніцы, якая вырашыла ў юбілейным 1912 годзе, у парадку прыватнай ініцыятывы, абшукаць прыналежнае ёй Сямлёўскае возера і ўрэшце-рэштаў выцягнула зь яго, заміж золата, гарматы, патопленыя Французамі пасьля няўдалае для сябе бітвы пад Вязьмай. Такім чынам народная пагалоска, што тут нешта Французамі кідалася, усё-ж пацьвердзілася.

У газэце „Голас радзімы за сакавік 1969 году зьявіўся вялікі артыкул з даволі няўпэўненым назовам — „Тайна Напалеона" — возера Стаячае?". Аўтар артыкулу М. Лапатка, старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытуту торфу Акадэміі Навук БССР, не бяз захапленьня падае да ведама суродзічаў за мяжой, як ачышчаецца возера Стаячае плывучымі земснарадамі ад сапрапеляў і сьцьвярджае, што паводля гідратэхнічных дасьледваньняў вада ў ім запраўды мае . . . павышаную канцэнтрацыю ёнаў серабра.

Мы дзівімся з нэўтралітэту беларускіх гісторыкаў у дачыненьні да гэтых дарэмных пошукаў, а можа яны ў дадатак і ня ведаюць, што Сямлёўскае возера, якое знаходзіцца ў 32 кілямэтрах на захад ад Вязьмы, паблізу ад шляху ад яе да Дарагабужа, народу, наўсуперак Вальтэру Скоту, вядомае вылучна пад назовам — Стаячае. Гэтае падабенства назоваў, відаць, і зьбіла спанталыку некаторых дасьледнікаў, якія занядбалі нашую трапную народную прыказку — Не адзін Гаўрылка, што ў Полацку. І старэнныя пошукі Напалеонаўскага скарбу ў возеры Стаячым на Меншчыне працягваюцца, дзеля чаго дбайна, жменя за жменяй, ператрушваюцца 80 тысяч кубамэтраў сапрапеляў, што патрабуе ўрэшце-рэштаў значных сяродкаў, якіх сям-там бракуе ня толькі на рэстаўрацыю, але й на рамонт унікальных архітэктурных помнікаў Беларусі.

**Юрка Віцьбіч**

# ЗЬ БЕЛАРУСКАГА САВЕЦКАГА ДРУКУ

## „ПОЛЫМЯ" ПРА СЬВЯТКАВАНЬНЕ Ў ЗША НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

„Штогод 25 сакавіка нацыяналістыя ў ЗША сьвяткуюць гадавіну БНР. Сьвяткаваньне адбываецца ў такім парадку: па папярэдняй дамоўленасьці, накіроўваецца дэлегацыя нацыяналістых (у тым ліку сьвяшчэньнік) у Кангрэс, дзе пасьля малітвы арганізуецца прыём для дэлегатаў. На гэтым прыёме з кароткімі антысавецкімі прамовамі выступаюць асобныя кангрэсмэны ў абарону Беларусі.

"Нацыяналістыя ў сваю чаргу наладжваюць урачыстае паседжаньне (у Нью-Ёрку часьцей за ўсё для гэтай мэты арандуецца заля ў гатэлі ,'Балтымор') (трэба: „Білтмор" — рэд. „Бел."), на якое запрашаюцца прадстаўнікі мясцовых уладаў, але прыходзяць звычайна дробныя чыноўнікі мэрыі. Чытаецца даклад антысавецкага характару, прамаўляюцца сьвяточныя прывітаньні, потым мастацкая самадзейнасьць. У асобных гарадох мэры аб'яўляюць дзень 25 сакавіка ,беларускім'." (З „раману-памфлету" Ільлі Гурскага „Чужы хлеб", „Полымя", 1970, № 1, б. 108).

## ВЯЛІКІ ПОПЫТ НА БЕЛАРУСКУ КНІЖКУ

(З рэцэньзіі С. Грахоўскага на кніжку маладога паэты Л. Данейкі „Галасы", выдав. „Беларусь", 1969)

„За сэрыю першых паэтычных зборнікаў, што выпушчае выдавецтва ,Беларусь', даўно прагаласавалі чытачы. Кніжкі ня роўныя, далёка не аднолькавыя па вартасьцях, узроўні майстэрства й таленту, і ўсё-ж яны **зьнікаюць з прылаўкаў у першы тыдзень пасьля выхаду з друку.**

„Чым-жа выкліканая такая цікавасьць да першых тоненькіх кніжачак? Хто іх купляе й чытае? Перш за ўсё — моладзь, студэнты, равесьнікі аўтараў. Яны спадзяюцца знайсьці дакладна й паэтычна сфармуляваныя і свае думкі, і свае пачуцьці,радасьці й засмучэньні, шукаюць адказу на пытаньні, праблемы й праблемкі, што непакояць, трывожаць і рупяць іхнае пакаленьне".

(„Літаратура і мастацтва", 10. II. 1970)

## ЗЬ БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІХ СУВЯЗЯЎ

„Штогоду праўленьне аб'яднаньня аўтароў „Заікс" выдае прэміі ў галіне перакладу. Лаўрэатамі мінулага году за выдатныя дасягненьні ў галіне перакладаў польскай літаратуры прызнаны два паэты: Максім Танк — за пераклады на беларускую мову і Войцех Міхалік — за пераклады на славацкую. Перакладчыкі ўзнагароджаныя, акрамя таго, ганаровымі мэдалямі „Заікса"...

„У канцы мінулага году ў кракаўскай газэце польскіх літаратараў „Жыце літэрацке" была зьмешчаная падборка вершаў савецкіх паэтаў, сярод якіх многа беларускіх. Надрукавана два вершы Максіма Танка, вершы Веры Вярбы, Пімена Панчанкі, Дануты Бічэль-Загнетавай і Рыгора Барадуліна", („Полымя", 1970, № 1, 256).

## ТАЎСТЫМ І ХУДЫМ

"Не праходзіць тыдня, каб рэдакцыя „Работніцы і сялянкі" не атрымлівала пісьмаў прыкладна такога зьместу: Памажэце, што рабіць? Я вельмі тоўстая і не магу пахудзець. Ем усяго два разы на дзень, ня ўжываю ні тлустага, ні салодкага . . . Як жыць далей?

"Крыху радзей пошта прыносіць пісьмы проста процілеглыя:

Толькі вы можаце мне памагчы . . . Я вельмі худая. Зь мяне ўсе сьмяюцца. Тэрмінова напішэце, што й як трэба есьці, каб патаўсьцець. Я не магу жыць больш такой худой . . .

„Пісьмы гэтыя прыходзяць, як правіла, ад дзяўчат, вучаніц 8-10 клясаў, радзей ад студэнтак.

"Паколькі паток такіх пісем не канчаецца, а таксама й таму, што большасьць карэспандэнтак не паведамляе свайго адрысу, відаць, ёсьць сэнс прысьвяціць гэтай праблеме худых і тоўстых спэцыяльны артыкул . . .

"Усе, хто зьвяртаецца да нас па дапамогу, лічаць, што адзінае і галоўнае тут — гэта ежа. Гэта ў корані няправільна й шкодна, калі пайсьці па такім шляху. Вядома, аб правільным харчаваньні трэба клапаціцца, асабліва худым, але крайнасьці недапушчальныя. Харчавацца трэба рэгулярна, ня менш трох разоў на дзень, абавязкова ў вадзін і той-жа час, абавязкова атрымліваць вадкую гарачую ежу (сухамятка прыводзіць да гастрытаў і язваў страўніка), абавязкова клапаціцца аб паўнацэннасьці яды — уключаць мяса, рыбу, тварог, сыр, малочныя прадукты, гародніну й фрукты. Але яда — не галоўнае ў гэтай праблеме.

"Ну, а як-жа ўсё-ткі палепшыць фігуру? Няўжо нічога нельга зрабіць? Можна, і нават шмат што. Можна мець фігуру, прычым, ня толькі талію, але й асанку, грацыёзнасьць рухаў, паходку ня горшую, чым у славутых кіназорак Захаду. Але дасягаецца гэта ТОЛЬКІ з дапамогай заняткаў фізкультурай і спортам. ТОЛЬКІ.

Усім здаровым дзяўчатам, мы можам рэкамандаваць спартыўную й мастацкую гімнастыку ў тым аб'ёме, які праводзіцца штодзённа праз радыё або на тэлевізары". („Работніца і сялянка", 1970, № 1, б. 24).

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ У ЛЁС АНДЖЭЛЕС

25 сакавіка сёлета мэр (бурмістр) гораду Лёс Анджэлес Сэм Ёрты ўручыў сп. Ч. Найдзюку, прадстаўніку БККА, праклямацыю пра абвешчаньне ім Дня Беларусі ў гонар 52-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 г. Афіцыйная супольная фотаздымка была часткай гэтай вялікай урачыстасьці, улучаная як адзін з пунктаў у праграму дня мэра беспасярэдня пасьля адмысловай прэсавай канфэрэнцыі.

У вадказ на падзяку за праклямацыю, мэр выказаў сваё пажаданьне, што ён хацеў-бы зрабіць шмат больш для Беларусаў. Мэр Сэм Ёрты зьяўляецца дэмакратычным кандыдатам на губарнатара штату Каліфорнія. Беларусы маюць добрую нагоду афіцыйна падтрымаць яго, як свайго кандыдата — прыхільніка й прыяцеля Беларусаў незалежнікаў. Беларускія галасы падтрымалі яго як ведамага ворага камунізму, і на выбарах на мэра.

Урачыстае сьвяткаваньне 52-іх угодкаў Акту 25 Сакавіка адбылося ў Лёс Анджэлес у нядзелю 22 сакавіка. На ўрачыстым сходзе былі прачытаныя прывітаньні ад інж. Я. Броўцкага й сп. Хв. Шыбута. Прывітаньне ад губарнатара штату было атрыманае пазьней. Рэфэрат на тэму „Чаму варта й трэба сьвяткаваць свой дзень незалежнасьці" прачытаў сп. Ч. Найдзюк.

У мастацкай частцы праграмы былі вершы П. Ерміна „Шчасьлівы Сакавік" (прадэклямавала Вера Вуіч), „Мае Мары" (прадэклямавала Карнэля Найдзюк), „Варожка" (дэклямавала Я. Найдзюк), а Нюся Стус адыграла на акардыёне беларускія народныя песьні й танцы. Мастацкае выкананьне сп-няй Верай Вуіч вершу Янкі Купалы „Цару неба й зямлі" моцна ўзварушыла прысутных. Ядзя Найдзюк сказала верш Ніла Гілевіча. На заканчэньне мастацкай часткі Пётра Ермін прачытаў сваю паэму. Праграма была закончаная адыграньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Сьвяткаваньне было зладжанае ад імя БККА і БАЗА.

**Н.**

***

**Увага:** Справаздачы із сьвяткаваньняў Сакавіковых угодкаў у Чыкага, Нью Брансьвіку й Лёндане ды з водгукаў на гэтыя ўгодкі ў Кангрэсе ЗША будуць зьмешчаныя ў наступным нумары „Беларуса".

**Кастусь Цьвірка**

## *ЖАМЧУЖЫНЫ РОДНАЙ ЗЯМЛІ*

*Абрус—абцас—азярод—арэлі . . .*
*Вясёлка—вырай—вярба—ваўчкі ...*
*Як міла пазваньваюць, сэрца грэючы,*
*Чыстых бацькаўскіх слоў ланцужкі!*

*І хто адшукаў іх — зямлі жамчужыны?*
*Спытай у магіл: удзень і ўначы*
*Іх здабывалі, з бурамі дужаючыся,*
*Людзі простыя — Крывічы.*

*Каб ясна зіхцела жамчужына-слова,*
*Каб людзям сьвяціла, на ўсе бакі*
*Яго шліфавалі як сьлед, адмыслова*
*Найлепшыя ў сьвеце тачылы—вякі.*

*Ды лезьлі чужынцы мой край прысвойваць —*
*І ўсюды (бо трос душы чорны страх)*
*Зьнішчалі агнём беларускае слова,*
*Палячы гэніяў на кастрах.*

*Але ўратаваў люд мой слова ад згубы*
*І, гонячы ворага з родных палос,*
*Праз далеч стагодзьдзяў сівых — з губ у губы —*
*Да нас, нержавеючае, данёс.*

*Як скарб дарагі, перададзены ў спадчыну,*
*У сэрцы хавае народ мой ад здрад*
*Праменнае, звонкае слова матчына*
*Для песень сонечных і баляд.*

1966 г.

# З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ КЛІЎЛЕНДУ

* 25 студзеня Адміністрацыйны Аддзел Япархіяльнай Управы БАПЦарквы наладзіў банкет. Адразу пасьля Багаслужбы парахвіяне й госьці накіраваліся ў царкоўную залю, дзе чакалі іх расстаўленыя сталы з часткава прынесенымі стравамі, а руплівыя гаспадыні стараліся, каб нікому нічога не бракавала. Праасьвяшчэньнейшы Уладыка Андрэй, выкарыстоўваючы ня гэтак даўняе сьвята Калядаў, зрабіў вельмі цікавы даклад пра сьвяткаваньне Калядаў на Беларусі, што вельмі зацікавіла прысутных ды ці аднаму прыпомніла калядныя дні на Бацькаўшчыне. Прыемна й карысна прайшоў час із сьпевамі, дый каса Япархіяльнае Управы папоўнілася.



Падчас банкету ў Кліўленьдзе

* Ад 6 да 24 студзеня былі выстаўленыя экспанаты беларускага народнага мастацтва ў бібліятэцы ўнівэрсытэту Нотр Дам штату Ілінойн, дзе вучыцца сябра Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі Андрэй Гасьцееў. Да экспанатаў былі зрыхтаваныя адпаведныя надпісы ды пададзеная кароткая інфармацыя пра Беларусь. За гэты даволі даўгі час выстаўку аглядалі тысячы студэнтаў, прафэсараў ды выдатных людзей з наведвальнікаў. Усе яны былі моцна зацікаўленыя. Андрэю Гасьцееву належыцца вялікая падзяка. Ён заўсёды быў удзельнікам арганізаваньня выставак у Кліўленьдзе і мае ў гэтай галіне адпаведную практыку. Вельмі было-б карысна, каб іншыя студэнты Беларусы ўзялі з гэтага прыклад ды пастараліся зрабіць тое самае, чым пашырылі-б веды пра Беларусь сярод амэрыканскага грамадзтва.

* 22 лютага адбыўся гадавы парахвіяльны сход, БАПЦарквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе. Пасьля малітвы Уладыкі Андрэя уступаючы старшыня Я. Ярахові ч адчыніў сход, у прэзыдыюм якога былі выбраныя М. Ягаўдзік за старшыню й Ю. Гасьцееў за сакратара. Пасьля справаздачаў уступаючае Царкоўнае Рады й прачытаньня акту Рэвізійнае Камісіі, сход прызнаў уступаючай Царкоўнай Радзе абсалюторыюм з падзякаю. У новую Царкоўную Раду былі выбраныя: інж. Я. Бруцкі — старшыня, А. Стрэчань — заступнік старшыні, Ул. Дунец — сакратар, А. Шастак — скарбнік, А. Лук'янчык і сп-ня К. Каляда — сябры Рады. За царкоўнага старасту выбраны А. Кананчук, за ягонага заступніка — М. Пэнда. У Рэвізійную Камісію выбраныя: М. Гумен, А. Семянчук і Я. Карпейка.

Тры пункты парадку дня: плян працы на будучыню, бюджэт на бягучы год і дарадчыя прапановы пастаноўлена разгледзець на наступным сходзе. Сход быў закончаны малітваю „Дастойна ёсьць . . ."

* 7 сакавіка беларускія арганізацыі Кліўленду ладзілі Запусты ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры „Полацак". Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне падрыхтавала смачныя стравы, а мужчыны прызапасіліся напіткамі. Вельмі добрая была ідэя танцаваць пад музыку з кружэлак, бо ці-ж магчыма наймаць дарагія аркестры. Танцавалі й пяялі да позна ночы, што аж не хацелася разьяжджацца. Даход зь імпрэзы быў прызначаны на разбудову Полацку.

* 3 красавіка ў гатэлі Стэйтлер адбылася міжнародная выстаўка пад назовам „Вуліца сьвету". Тамжа прадаваліся й розныя патравы нацыянальнасьцяў. Ад Беларусаў вельмі добра зарэпрэзэнтаваліся нашыя жанчыны. Нашая выстаўка выглядала найлепш і зрабіла шмат у галіне азнаямленьня чужынцаў з нашымі праблемамі. З прадажы патраваў папоўнілася свая каса. За зьбіраньне й пазыку экспанатаў належыцца падзяка сям'і Калядоў, Дунцоў і сп. С. Карніловічу. За дзяжурства пры выстаўцы і продаж патраваў належыцца падзяка спадарыням К. Каляда, О. Стрэчань, В. Каваленка, М. Трэцяк, Т. Кананчук, І. Сьмірновай і Е. Дунец. Ад моладзі пры дзяжурстве памагалі Валодзя й Рагнеда Дунцы ў нацыянальных вопртаках.

**Ул. Д.**

**УЛАДЗІМЕР КАРАТКЕВІЧ**

# ЗВАНЫ Ў ПРАДОНЬНЯХ АЗЕР

**Уладзімер Караткевіч** — шырака ведамы ня толькі як аўтар выдатных твораў мастацкае прозы пра гістарычную мінуўшчыну Беларусі, ня толькі як глыбака нацыянальны, з рамантычным ухілам, паэта-лірык, але й аўтар мастацкіх нарысаў. У сьнежанскім нумары „Маладосьці" за 1969 год надрукаваны вялікі Караткевічаў нарыс, названы аўтарам эсэем, „Званы ў прадоньнях азёр" пра ўражаньні із свайго падарожжа па Палесьсі. Маляўнічыя краявіды палескай прыроды, фальклёрная творчасьць Паляшукоў ды прыпаміны гістарычнай мінуўшчыны Палескага краю палоняць у гэтым высокамастацкім творы ўражлівую душу аўтара. Ніжэй знаёмім нашага чытача з празаічным уступам (бо ёсьць і вершаваны ўступ) да нарысу, ягоным разьдзелам пра мінуўшчыну Пінску ды з канцавым разьдзелам, якім замыкаецца твор.

***

Кажуць, гэта праўда.

Ужо там, дзе пачынаюцца першыя астраўкі палескіх балот, і далей на поўдзень, дзе Бярэзінская роўнядзь паступова пераходзіць у Дняпроўскую нізіну й Прыпяцкае Палесьсе, — усё часьцей гучаць паданьні пра гарады, вежы і замкі, што апусьціліся на дно азярын.

Чаму гэта здарылася — тлумачаць па-рознаму.

Ува ўсякім разе, паданьні гавораць, што ў Белым возеры, у Князьвозеры, у Чорным возеры і ў возеры Пагост, як і ў дзесятках іншых азёр, стаяць на дне гарады і грозныя вежы, ходзяць і займаюцца сваімі справамі людзі і з глыбінь на заходзе сонца далятае прыглушаны звон.

Ціха гавораць падводныя званы. Чорныя ад старасьці самы вартуюць даўно не патрэбныя арсэналы. У пустых калчанох хаваюцца пячкуры. Але па-ранейшаму льлецца даўняя песьня, па-ранейшаму першародна гучыць нечапаная і чыстая мова, такая, якая яна была сотні год таму.

Нешта ўва ўсім гэтым ёсьць. Калі верыць Кіркору і Доўнар-Запольскаму, то яшчэ ў мінулым стагодзьдзі над вадою возера Пагост у моцную засуш можна было бачыць вярхі нейкіх спаруд, а ў Князь-возера вялі мошчаныя дарогі. Вялі проста пад ваду і скрываліся ў глыбіні.

Калі-небудзь трэба завесьці акваланг і апаратуру для падводных здымак і паглядзець, што там, на дне водаў, на дне нашай памяці. Наведацца ў госьці да тых даўніх людзей.

А яны-ж клічуць нас! А настане-ж часіна, калі гэтыя, забытыя намі гарады й вежы, вёскі й званіцы ўсплывуць наверх у патоках пены, што сплывае з муроў. Спачатку цьмянае пад вадою, як луска ліня, будзе ясьнець і ясьнець золата, і вось амытыя шпілі прарэжуцца праз паверхню, вільготна й нясьцерпна зазьзяюць на сонцы. І ярус за ярусам будуць выплываць званіцы й вежы, і людзі будуць весела махаць нам рукамі. Нам, братом і нашчадкам іхнім, нам, што не забылі. Нам, што ўрэшце дачакаліся іх. Нам, якія ня зрадзілі.

### XVI. ПІНСКАЯ ДАЎНІНА

Пінск — адзін з самых улюбёных маіх гарадоў. Ён, як Горадзень, мае сваю фізіяномію. Гэта Горад зь вялікай літары, а не двайнік розных там „чаромушак", якія ў кожным-кожным горадзе — кількі-б іх ні бачыў — аднолькавыя. Таму і шкада, што стандарт, ды яшчэ і нязручны стандарт, лезе і сюды, як быццам гэта ён тут гаспадар і пан.

Усё гэта, што вакол, — Прыпяць і Піна, лясы ласкавыя, паплавы мокрыя, дрэвы раськідзістыя, пчаліныя сьвепеты на векавых дзічках, няяркае палескае неба, — усё гэта было, мабыць, такім самым, як у часы Уладзімера, што, паводля паданьня, заснаваў горад, такім самым, як і ў часы асьляпленьня князя Васілька.

Але чалавек на працягу дзевяцісот (а можа і тысячы) год ня толькі паліў і асьляпляў — ён яшчэ і будуваў, старанна ўходжваў гэтую гліністую зямлю, вечна дбаў аб прыгажосьці. Зрабіў, урэшце, на гэтай звычайнай зямлі малое дзіва, якім мы па праве можам ганарыцца.

Паліў яго хан Койдан — але жыхары ўзноў узводзілі вежы з гладкага дубовага бярвеньня. Паліў яго Нарымунт — але ўзносіўся амаль адразу Андрэем Васілай францішканскі драўляны касьцёл. Татары вынішчалі ўсё ў навакольлі, але жыхары ня толькі давалі адпор пад кіраўніцтвам Канстантына Астроскага, але і капалі першыя ў гісторыі Палесься каналы (І-ая палова XVI стагодзьдзя).

Гарэў ён у сутычцы Нябабы з Радзівілам, гарэў ад рук ваяводы Валконскага і воінаў Карла XII. Але няўхільна паўставаў, прыўкрашаўся будынкамі, квітнеў працай сваіх майстроў і гандлем. Многа, дужа многа пасьпеў ён наашчадзіць і назапасіць, нягледзячы на шаблі заваёўнікаў. І гэта назапашанае мы павінны несьці асьцярожна, на выцягнутых далонях, як чашу з вадой. Старанна гледзячы сабе пад ногі, дзе там-сям зьбераглісь яшчэ сьвятыя і старажытныя пінскія камяні.

Нам абавязкова трэба было разабрацца, а ці так гэта. Бо калі дагэтуль справа ішла пераважна аб памяці звычаяў, то, што датычыць самога Пінска, тут справа магла ісьці, бадай, толькі пра памяць архітэктурную.

Таму трэба было пачынаць з галоўнага архітэктара. Да яго і пайшлі ў дзівосны будынак былога калегіуму, адзін зь лепшых помнікаў грамадзянскай архітэктуры на Беларусі, шматпавярховы, дзіўнавелічны барокавы гмах.

Архітэктар яшчэ досыць малады, сымпатычны. Прозьвішча Заржэцкі Міхаіл Сігізмундавіч. Тутэйшы, але зь дзяцінства амаль усё жыцьцё пражыў у Маскве. Справу ведае. Але адзін чалавек, калі яго не падтрымлівае грамадзкасьць, няшмат можа зрабіць.

Справа, гаворачы сьцісла, вось у чым. Усе вы із шматлікіх беларускіх і польскіх гісторыяў архітэктуры ведаеце будынак славутага паезуіцкага касьцёла. Дык вось, яго ўжо няма. А гандлёвыя рады XVIII

## УРАЧЫСТАЯ БОЖАЯ СЛУЖБА



**Уладыка Мікалай на прыняцьці ў Нью Бранськвіку**

З нагоды Сабору япіскапаў БАПЦ, што адбываўся ў Нью Ёрку 26-27 сакавіка, наш Прыход наведаў япіскап Тураўскі й Таронцкі Мікалай. Ім была адпраўленая вячэрня ў царкве Жыровіцкае Божае Маці, а назаўтрае, у нядзелю, урачыстая Божая Служба ў суслужэньні а. Васіля Кендыша.

Пасьля Божае Службы сястрыцтвам Жыровіцкае Божае Маці было наладжанае ўрачыстае прыняцьцё ў гонар дастойнага госьця з Канады. Уладыку віталі ў прамовах настаяцель Прыходу а. Васіль, старшыня Царкоўнае Рады В. Дубяга, ад Аддзелу БАЗА В. Стома. Уладыка Мікалай як у казані ў царкве, гэтак і ў сваёй разьвітальнай прамове вучыў аб патрыятызьме й ахвярнасьці. Словы Ўладыкі моцна прамаўлялі да прысутных, бо кажны бачыў у васобе Ўладыкі найлепшы прыклад ахвярнасьці беларускай царкве й беларускай справе наагул.

## ГАДАВЫ СХОД ПАРАХВІІ БАПЦ У ТАРОНТА

Сёлета 8 сакавіка ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру адбыўся перавыбарны гадавы Сход Парахві БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

Сход быў адчынены старшынём Парахвіяльнае Рады Ул. Целяшом і малітвай Уладыкі Мікалая. У Прэзыдыюм Сходу былі абраныя: Уладыка Мікалай, К. Акула — старшыня, М. Ганько — сакратар.

Із справаздачаў уступаючае Парахвіяльнае Рады выявілася, што яе двухгадовая дзейнасьць мела два аспэкты: 1. арганізацыйна-ідэйны й 2. — гаспадарскі. Найважнейшым, што было зроблена ў першай галіне, гэта наладжаньне ўрачыстага сьвяткаваньня 20-ых угодкаў адноўленае БАПЦ, спалучанага з адзначэньнем 15-цігодзьдзя БАПЦ у Канадзе, а тым самым і 15-ці годзьдзя Парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Сарганізаваныя былі дзьве імпрэзы на парахвіяльнае сьвята з дакладамі аб Кірыле Тураўскім. Ладзіліся вялікодныя абеды, ялінкі для дзяцей, калядаваньні. Дзякуючы прыдбаньню новага сьвятара ў васобе а. Пратаярэя Міхаіла й у сувязі з абслугоўваньнем сьвятаром парахвіі БАПЦ у Дэтройце, у нас няма болей перарываў у нядзельных Багаслужбах.

Куды болей працы было ўложана ў галіне гаспадарскай: адміністрацыі маёмасьці й здабываньня фінансавых сяродкаў на жыцьцё й працу Парахвіі. Супольным высілкам із ЗБК у 1969 г. была выкупленая гіпатэка на будынку БР-ГЦ у Таронта, супольнай собскасьці абедзьвюх арганізацыяў. У гэтым-жа годзе была набыта, а фактычна атрымана ў падарку, царкоўная дзялянка ў маёмасьці „Слуцак”.

Крыніцай прыбыткаў Парахвіі былі перадусім ахвяры, якія за апошнія два гады вынесьлі бязмала дваццаць тысячаў даляраў. У гэтую суму ўваходзяць і дзьве тысячы, ахвяраваныя на набыцьцё дзялянкі ў „Слуцку”. Далейшымі крыніцамі прыходаў былі сяброўскія складкі ды зарабковыя імпрэзы, як маёўкі.

У дыскусіі над справаздачамі, апрача галасоў прызнаньня працавітасьці й руплівасьці, асабліва некаторых сяброў Парахвіяльнае Рады, чуваць была й крытыка, выражаная ў пытаньнях: Чаму няма ня толькі школы, але й навет навучаньня Закону Божага? Чаму няма добрага хору? Чаму мала людзей у царкву ходзіць?

Пытаньні важкія, абвінавальныя. На іх шукалі адказу ўдзельнікі Сходу.

А ўсё-ж пытаньні правільныя. Усе гэтыя „чаму?” чакаць адказу й разьвязкі. Толькі дзе гэты адказ знайсьці? Яго шукалі ў вабставінах, яго шукалі ў віне Парахвіяльнае Рады, у віне Настаяцеля, а хтосьці сугэраваў зьвярнуць увагу на пагаворку:

„Хочаш рэфармаваць грамадзтва, пачынай ад сябе!”.

Сход уважаў, што ў недахопах нашае Парахвіі вінаватая не Парахвіяльная Рада, якая ўлажыла за два гады нямала стараньняў і працы, а перадусім вернікі, якія рэдка калі прыходзяць у царкву й адмаўляюцца ад прыманьня на сябе абавязкаў, і прызнаў уступаючай Парахвіяльнай Радзе абсалюторыюм з падзякай.

У выніку дэвалюацыі даляра Сход пастанавіў падвысіць месячную плату Настаяцелю на 17%, сяброўскія складкі з $ 12.00 падняць да $ 15.00 і падвысіць аплату за рэнтаваньне пакояў у „Слуцку”.

Сход даручыў новай Парахвіяльнай Радзе прылажыць усе стараньні, каб знайсьці сяродкі на прафэсійнага рэгента, які сарганізаваў-бы царкоўны хор, наладзіць нядзельную школу з навучаньнем Закону Божага, ды — знайсьці сяродкі на фінансавае падтрыманьне „Беларуса” — газэты, якая прысьвячае столькі ўвагі й месца для БАПЦ наагул ды зьмяшчае ўсе справаздачы зь дзейнасьці нашае Парахвіі.

У новую Парахвіяльную Раду былі выбраныя: Ул. Цялеш, М. Ганько, Я. Баран, М. Стэльмашак, М. Кулеш, М. Алексеевіч, Л. Карыба. У Наглядную Раду ўвайшлі: Н. Чорная, Н. Сільвановіч, д-р Р. Жук-Грышкевіч.

Наапошку слова меў Уладыка Мікалай. Ён даваў адказы на розныя пытаньні ды падзякаваў за канструктыўную крытыку, як і наагул за працу Сходу.

**Р. Жук-Грышкэвіч**

### СЬВ. ПАМ. ЯНКА МЫШКОЎСКІ

У нядзелю 1 сакавіка сёлета, якраз на 22-я ўгодкі свайго жанімства, пасьля цяжкай хваробы памёр у шпіталі ў Вітбы, Онт., Канада, Янка Мышкоўскі. Нябожчык нарадзіўся 25 травеня 1923 г. у вёсцы Драбоўшчына на Браслаўшчыне. Пасьля прыбыцьця ў Канаду адбываў кантракт у шахце, потым даўжэйшы час жыў із сям'ёй у Таронта, а апошніх колькі год у Ашаве.

3 сакавіка вечарам у пахароннай капіцы Яго Праасьвяшчэнства Ўладыка Мікалай з Таронта адслужыў Паніхіду па Нябожчыку. Паховіны адбыліся 4 сакавіка з Украінскай Праваслаўнай Царквы, якую наняла дзеля гэтага Беларуская Самапомач у Ашаве. Праводзіў Нябожчыка на могілкі Уладыка Мікалай. Беларуская калёнія Ашавы й Таронта даволі шматкольскаснай грамадой прыняла ўдзел у жалобным абрадзе. Нябожчык пакінуў у жалобе жонку Аню, дачок Тарэсу й Ірэну і стрыечную сястру Сашу із сям'ёй. Беларускае грамадзтва страціла добрага сябру, а Парахвія сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта свайго Парахвіяніна.

Вечная Яму памяць, а канадыйская зямля пухам!

**М. Г.**

### СЬВ. ПАМ. ЯРАСЛАЎ СЬВІРЫД

11 жніўня 1969 г. памёр у Бафала, Нью Ёрк, сьв. пам. Яраслаў Аляксандар Сьвірыд і пахаваны на магільніку сьв. Станіслава там-жа.

Нябожчык нарадзіўся 1 сакавіка 1929 году ў Вільні. Бацькаўшчыну пакінуў у 1944 г., затым у 1951 г. пераехаў у ЗША і неўзабаве паступіў у амэрыканскую армію, трапіў на вайну ў Карэі, скуль вярнуўся з высокімі адзначэньнямі за заслугі.

Нябожчык пакінуў у глыбокай жалобе маці, брата й жонку.

Хай-жа Яму амэрыканская зямелька будзе вечным адпачынкам!

**А. Маркевіч**

## ХТО З КАГО СЬПІСВАЕ?..

**Л. Прокша, агент КДБ, супрацоўнік газэты „Голас Радзімы”, цяперашні рэдактар „Літаратуры й мастацтва” (гл. „ЛіМ”, 19. XII. 1969 г.), арт. „Барані нас Божа ад сяброў...”**

„Пан Станкевіч, як і той паліцай, зь якім я гутарыў, адносіцца да тых людзей, якія няблага ўладкоўваюцца пры ўсіх уладах. За ‚польскіх часув' ён, бадай, адзін зь Беларусаў заходніх абласьцей атрымаў вучоную ступень. Не задарма, вядома. Перад гэтым мусіў старанна папрацаваць — выдаць дэфэнзыве групу беларускіх камсамольцаў... За гэтыя паслугі і паслалі пілсудчыкі свайго гадунца здабываць лаўры вучонага.

„Скончыліся ‚часы' дэфэнзывы, але ня спынілася на тым кар'ера прафэсара Станкевіча. Ён уладкаваўся ў Наваградзкім пэдвучылішчы выкладчыкам беларускай літаратуры. Тут ён таксама старанна працаваў: выступаў з палкімі прамовамі на сходах. Горача гаварыў аб інтэрнацыяналізме, а нацыяналізм называў ‚зьявай заалягічнай', рэдагаваў насьценную газэту...(...)

„Прыйшлі гітлераўцы. Устанавілі крывавы ‚новы парадак'. Станкевіч першы, выцягнуўшы па-фашысцку руку, прывітаў гэты парадак, шчырым ‚Гайль Гітлер'.

„І зразумела, атрымаў пасаду камэнданта Барысаўскага раёну. Такія гітлераўцам былі патрэбны. Іх было мала: на пальцах пералічыш. (...)

„І вось былы бургамістар стаў камэнтатарам амэрыканскай радыястанцыі ‚Свабода'.”

**Хмараўскі „Беларускі голас”, выдаваны ў Таронта, № 180, люты 1970 г., арт. „Непераўзойдзенае нахабства наемніка”.**

„Пасьля нахабнага хрышчэньня свае газэты выдаванай у беларускай мове даўней на чужыя небеларускія фонды, як ‚адзінай Беларускай газэты ў Вольным Сьвеце', у апошнім нумары свайго антынезалежніцкага ‚Беларуса', ягоны рэдактар Стась Станкевіч абвесьціў, што ягоная антынародная шкумаціна зьяўляецца ‚прадаўжальніцай „Нашай Нівы”'!!! (...)

„Стась Станкевіч сталы працаўнік неперадрашэнскага твору Амэрыканскіх прарасейскіх колаў, ‚Камітэту Радыя Свабода'. Дык як ён мае нахабства раўняцца з такімі беларускімі ідэёўцамі і патрыётамі-незалежнікамі, як рэдактары ‚Нашай Нівы', браты Луцкевічы? (...)

„Савецкія ўлады па захопе Заходняй Беларусі (..) Стася Станкевіча ўмясьцілі на выкладчыка пэдагагічнай школы ў нашым Наваградку, дзе ён уславіўся найадданейшым ўсхваляньнем расейскай мовы і культуры перад беларускімі вучнямі.

„Не пасьпелі прыйсьці Немцы, як гэты самы Стась Станкевіч аказаўся такім-жа угодніцкім службістам у гітляроўшчыкаў, назначаны імі на Бургамістра Барысава, а перад гэтым сваімі прыстасаванскімі піруэтамі, ён пры Польшчы, у Вільні, быў самай даверанай асобай у польскіх уладаў, якія даручылі яму выкладаньне польскай мовы й літаратуры для беларускіх вучняў у Віленскай гімназіі. Каб мець такі давер у акупацыйных уладаў, трэба было мець добрыя лёкайскія здольнасьці”.

Камэнтары лішнія.

## АГУЛЬНЫ СХОД БАЗА У НЬЮ ДЖЭРЗІ

22 лютага адбыўся Агульны Сход Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Джэрзі, на якім старшыня ўступаючае ўправы сп. Сяргей Гутырчык і сябры ўправы зрабілі справаздачы зь дзейнасьці.

Важным дасягненьнем у справаздачным годзе было зарганізаваньне візыты дэлегатаў беларускіх арганізацыяў у Нью Джэрзі на чале з а. Васілём Кендышам у Вашынгтон дзеля адчытаньня малітвы ў Кангрэсе ЗША ў дзень 51-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Аддзел БАЗА выказаў вялікую грашовую дапамогу для выдаваньня газэты „Беларус”. У дыскусіі было выказанае пажаданьне, каб узмоцніць культурна-асьветную дзейнасьць у Аддзеле.

У новую ўправу Аддзелу БАЗА былі выбраныя: Я. Азарка — старшыня, Т. Супрун — віцэ-старшыня, І. Брэндэр — сакратар ангельскае мовы, В. Стома — сакратар беларускае мовы, М. Войтанка — скарбнік, Б. Даніловіч — сябра ўправы, П. Швэд — сацыяльны рэфэрэнт, В. Лосік — рэфэрэнт моладзі. Сп-ня Т. Януш была перавыбраная за старшыню Жаноцкае Сэкцыі БАЗА.

Сп. Янка Азарка, прыймаючы старшынства, адзначыў вялікія заслугі даўгагадовага старшыні арганізацыі сп. Сяргея Гутырчыка ў папулярызацыі беларускае справы ў мясцовасьцях пасяленьня Беларусаў ды сярод афіцыйных амэрыканскіх дзейнікаў у штаце ды ў цэлай Амэрыцы.

Сп. Азарка заявіў, што будзе старацца ахапіць арганізацыйным жыцьцём тых, што да БАЗА яшчэ не належаць. Цеснае супрацоўніцтва зь беларускімі царкоўнымі й маладзёжнымі арганізацыямі будзе уважаць за першую перадумову свае дзейнасьці. Ён абяцаў узяць на ўвагу ўсе выказваньні, зробленыя на Сходзе, ды ўзмоцніць культурна-асьветнае жыцьцё ў васяродку.

### ПАВАЖАНЫЯ СУРОДЗІЧЫ

**Газэта „Беларус” выдаецца за дабравольныя ахвяры беларускага грамадзтва. Таму не павінна быць ніводнага Беларуса, які-б атрымліваў і чытаў нашую газэту задарма.**

**Таксама не павінна быць ніводнага Беларуса, які-б не атрымліваў і ня чытаў нашай газэты.**

стагодзьдзя, што ішлі ад яго? Фота іх ёсьць нават у падручніку В. Чантурыі. Дык вось, фота ёсьць, а радоў ужо таксама няма. А пафраньцішканскі касьцёл? Калегіум? Гэтыя пакульшто стаяць, але іхнае існаваньне — ня існаваньне, а балянсаваньне паміж жыцьцём і нябыцьцём. Дошкі, ува ўсякім разе, зь іх зьняты. Ахоўныя.

Дзіўныя справы! У паезуіцкім касьцёле хацелі зрабіць піўзавод. Выявілася, многа работы па перааблсталяваньню. Тады яго, моцны, як дуб, папросту ўзарвалі ў 1953 годзе, а ў 1954 разабралі. Тады стала ясна, што разбураны ансамбль і, на аснове гэтага, — калі ўжо ансамблю ўсёроўна няма, — зьнесьлі гандлёвыя рады. Бо яны-ж выпалі з агульнага. І вось цяпер пададзена ідэя зрабіць піўзавод у вацалелым пафраньцішканскім. Што за піўная кароста?

Калегіюм, пасьля перапрацоўкі, стаў добрым адміністрацыйным будынкам: пакоі і калідоры прасторныя, высокія, велічныя. Месца хапае на многія і многія ўстановы. Летам прахалодна, узімку, пры паравым ацяпленьні, цёпла (а праводзіць яго было цяжка, бо муры ў два мэтры таўшчынёй). Так-сяк падрамантавалі. Каму шкодзіць яго вонкавы выгляд? Выгляд аднаго зь лепшых помнікаў Беларусі.

Абапёрся на магутныя контрфорсы, як на лапы. За пятнаццаць кілямэтраў з-за ракі відаць. А яшчэ каб адкрыць ягоныя аркады, выламаць адтуль сучасную цэглу — гэта быў-бы палац дожаў. А пад аркадамі зрабіць, — ну, хаця-б летняе кафэ із старымі сталамі і кутымі сьвяцільнікамі. Гэта быў-бы гонар Пінску і ўсёй Беларусі. Дык не. Прыехаў нейкі таварыш зь Менску, агледзеў усё і заявіў архітэктару:

— Слухайце, стаўце пытаньне аб зносе — мы вас падтрымаем. Скрыня нейкая. Аднэй фарбы колькі выходзіць.

Архітэктару ледзь удалося адгаварыцца. Ледзь удалося адбіць і пафраньцішканскі касьцёл з мурам ля яго:

— Транспарту шкодзіць. Манастырскі выгляд. І ўваход з вуліцы.

А на самай справе вуліцы хапае. А як не хапае, то зносіць трэба зусім іншае.

Кожная зьява мае два бакі. „Езуіт” стала словам-сымбалем. Але як-бы мы ня ставіліся да езуітаў і да іх тактыкі, трэба, дзеля справядлівасьці, прызнаць, што гэта былі самыя адукаваныя людзі свайго часу. Іншая справа, на што яны гэтую адукацыю ўжывалі. Але ў іх былі самыя шматлікія школы і самыя багатыя бібліятэкі з выключна багатым падборам кніг, аж да вальнадумных. Таму з гэтых школ выходзілі ня толькі цемрашалы, але і вальнадумцы.

Кнігі, часам найсамыя рэдкія, маглі-б служыць і зараз. Але 1939 год, час бязуладзьдзя, вайны, нарадзіў у калегіуме страшны пажар. Некалькі дзён гарэў будынак, і ў ім палалі сотні кніг. Потым другая вайна зь яе разбурэньнем, і бязуважнасьць. І вось попел ведаў даўно расьсеяўся па зямлі.

І ўсё адно, у некаторых людзей яшчэ бачыў я старыя пэргамантныя граматы пабеларуску. Адна зь іх была 1592 году. То шукайце-ж вы гэта сярэднявякоўе, зьбірайце яго захоўвайце ў музэях. Ня здымайце дошчак аховы, як з Ружанскага палацу і касьцёлу пафраньцішканаў у Пінску, накрыйце палац чарапіцай, і сапраўднай, а ня Берасьцейскага заводу, што пастаяла тры гады і асыпалася.

Ды і другі ахараніце. Пабудаваны князямі Дольскімі ў 1595 годзе для братоў-камуністаў (быў і такі манаскі ордэн, у якім усё, аж да лыжкі, было агульнае). Трэба зьберагчы гэтую барокавую цацачку, якой мог-бы ганарыцца любы горад Эўропы, цацачку, на якой таксама няма дошкі.

І цуд драўлянага дойлідства, храм на могілках, дзе ўсё, аж да галярэі, такой тыпова беларускай, абапертай на каменныя слупкі, ёсьць радасьць і ціхі сум. Дзе званы вісяць між дзьвюх ліп, што разыходзяцца з аднаго кораня.

Усё там радасьць. І ўсё ў запусьценьні.

То аднавіцца тое, што засталося.

### XXIII. ІЗНОЎ ГАВОРАЦЬ ЗВАНЫ

На нейкі час ты кончылася для мяне, сьвятое маё Палесьсе. Але я вечна буду ўдзячны тваім іржавым балотам, тваім шыракалістоўным бязьмежным пушчам, тваім азёрам, залатым рэкам тваім, задуменна-пахмурым вежам і муром, праўдзівым сьветкам мінулага. І яшчэ тваім людзям, дзецям тваім чыстым, сапраўднаму сэрцу твайму і тваёй непадкупнай, вялікай, справядлівай душы.

Яны страшна працуюць. Яны сьветла думаюць. Яны жывуць дабром. Што-б там ні было, яны жывуць дабром. І заўсёды жылі дабром, іначай не зьбярогся-б, даўно паў-бы пад ногі захопнікам і рознай навалачы, расплыўся-б, зьнік гэты тысячы разоў выпалены, тысячы разоў попелам пушчаны край.

Я ледзь пасьпеў вярнуцца ад цябе. Але часам ужо зараз на сьвітаньні, або ўначы, калі сплыве на імгненьне сон, а то і ўдзень сярод чалавечага тлуму, я раптам забываю аб усім і ня чую нічога.

Пачынаюць гаварыць твае званы.

Вельмі далёкія, амаль нячутныя, яны пачынаюць гаварыць з усіх тваіх азёр. Там жывуць людзі, жыве стары палескі народ, першародны народ зь вялікім сваім сэрцам, якое мы не павінны забыць.

Настане дзень, і зьявяцца над вадою шпілі, залатыя шатры і самыя белыя вежы, а тады ў патоках блакітнай пены, у карунках і сонцы багатыя і гожыя муры.

І людзі зь яснымі, як вада тваіх крыніц, вачыма, незатуманенымі вайной, жахам, адступніцтвам і здрадай, будуць пяшчотна махаць рукамі, сустракаючы нас, а мы кінем ім пад ногі кветкі, сваё раскаяньне і сваю любоў. І мы абдымемся зь імі братнімі абдымкамі, якія не разарваць, і нідзе, нішто ня будзе гарэць і выбухаць, і паўсюль застануцца толькі хаты, тонучыя ў кветках, і маці зь дзецьмі, і сьветлая радасьць, і мова, і песьні, і шчасьце.

**Палесьсе — Менск, ліпень 1969 г.**

**Уладзімер Караткевіч**

### БЕЛАРУСАЎ У КАНАДЗЕ

ветліва просім выпісваць „Беларуса” й высылаць падпіску ды ахвяры на газэту на адрыс нашага Адміністратара на Канаду:

Mr. A. MARKIEVICH
127 Dovercourt Road
Toronto 3, Ont.

